


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 15 (151), КАСТРЫЧНІК 2012 ГОДА

**Цытата нумара:**

**Усё залежыць ад нацыянальнай і палітычнай сьвядомасьці народу. На што мы здольныя, такая і доля ў нас будзе.**

*Васіль Быкаў, 1991 год.*

МЕРКАВАННЕ

# ДАЦЬ НАРОДУ РЭАЛЬНАЕ ПРАВА ВЫБАРУ

Прайшоўшая выбарчая кампанія паказала, што выканаўчая вертыкаль моцна абаронена не дэмакратычным выбарчым заканадаўствам. Прызначаныя вертыкаллю выбарчыя камісія могуць безпакарана парушаць нормы законаў і ім за гэта нічога не будзе. Існуючае "заканадаўства" надзейна бароніць уладу ад выбаршчыкаў, пазбаўляючы народ права выбару. Для народу няма рэальных магчымасцей бараніць сваё права на выбар у межах існуючага "заканадаўства".

Гэта засведчылі вынікі ўсіх выбарчых кампаній пасля незаконнага рэферэндума 1996 году, калі ўсю паўнату улады захапіў першы прэзідэнт краіны. Беларусы апынуліся ў становішчы бяспраўнага народу, які не мае права на свабодныя дэмакратычныя выбары. Гэта канчаткова было афомлена на рэферэндуме 2004 году, калі Аляксандр Лукашэнка атрымаў "права" быць кіраўніком краіны колькі пажадае. З гэтага часу Беларусь дрэйфуе ў бок таталітарных рэжымаў Кубы і Паўночнай Карэі, а будучыня краіны акутана цемрай.

Пры чысціні вуліц і міліцэйскім парадку краіна кіруецца не нормамі закону, а указамі, дыкрэтамі ды і часам толькі словамі афіцыйнага кіраўніка. Пры пазбаўленні права на сходы, вольныя СМІ, дэмакратычныя выбары народ апынуўся ў поўнай залежнасці ад самаупраўства бюракратыі. Гэтым чыноўнікам розных узроўняў грамадзяне маюць мачымасць толькі паскардзіцца на "прамую лінію", прыйсці на прыём. Але ў межах існуючага выбарчага заканадаўства немагчыма выбраць рэальную прадстаўнічую уладу, не магчыма пабачыць чэсны падлік галасоў выбаршчыкаў. Стварэнае "выбарчае" заканадаўства дае магчымасць стаўленінка вертыкалі ў выбарчых камісій ігнараваць правы назіральнікаў, ігнараваць выбар народу.

Уся вертыкаль выбарчых камісій залежыць ад жадання аднаго чалавека і гэта пачынаецца ад Цэнтрвыбаркама і цягнецца да кожнай участковай камісіі. Менавіта на ўзроўні участковых камісій фальсіфіцыруецца яўка выбаршчыкаў і падтасоўваюцца вынікі народнага волевыяўлення. Пры гэтым усе парушэнні заканадаўства на ўзроўні участковых камісій пакрываюцца вышэйшымі камісіямі. Пракуратура і суды не маюць ніякага жадання бараніць ЗАКОН і таксама бароняць інтарэсы вертыкалі ад якой самі залежаць. Наогул, у выбарчым законе не прапісана сама працэдура абскарджання парушэнняў ЗАКОНУ акрамя абскарджання фармавання камісій і вынікаў "выбараў" з боку толькі кандыдатаў. І гэтым вертыкаль карыстаецца спаўна.

Сёння краіна мае Палату пятага склікання, якая быццам бы павінна быць самастойным заканадаўчым органам. Але да апошняга часу яе дэпутаты ўвесць час галасавалі за законапраекты, якія прысылалі з Адміністрацыі або Савета міністраў. Так было на ўсіх папярэдніх кадэнцыях і няма ніякіх спадзеваў, што сітуацыя зменіцца на гэтым скліканні.

Народ Беларусі апынуўся закладнікам узурпацыі ўлады вышэйшым кіраўніцтвам краіны. Гэта прысваенне ўлады усё далей будзе адкідваць краіну на ўзбочыну цывілізацыі, пазбаўляючы годнай будучыні нас і нашых дзяцей. З'яўленне шанца на змены да лепшага магчыма толькі тады, калі большасць грамадзян пажадае жыць годна па законах, а не паняцціях кіруючага рэжыму. І гэта залежыць ад асабістай пазіцыі грамадзяніна, ад жадання пераадолець страх і зрабіць выбар на карысць свабоды, дэмакратыі. Выбар жа на карысць дэмакратыі заключаецца ва ўдзеле ў руху за свабодныя выбары, ва ўдзеле ў працы грамадскіх ініцыятываў, арганізацый, а таксама ў акцыях салідарнасці з палітычнымі вязнямі, у акцыях рашэння існуючых праблем.

Узнагародай жа за выбар на карысць свабоды і дэмакратыі будзе пастаянны рост дабрабыту насельніцтва, абароненасць ад самаўпраўства улады, магчымасць стварэння канкурэнтаздольнай дзяржавы.

**Леанід Гаравы.**

ТРАНСПАРТ

# КОШТ ВЫШЭЙ, А СТРАТЫ ТЫЯ Ж

**Пасля выбарчай кампаніі, як і чакалася ў краіне пачаўся масавы рост коштаў тавараў і паслугаў. З 5 кастрычніка кошт праезду ў аўтобусе па Гарадку стаў 1400 рублёў.**

Гэты рост прагназаваўся адразу ж пасля абвяшчэння павышэння коштаў на паліва, якое адбылося ў краіне 3 кастрычніка. З серады паліва на Беларусі стала прадавацца на наступных коштах:

АІ-95 - 7500 рублёў (да гэтага - 7150), АІ-92 - 6950 (да гэтага - 6650), Нармаль-80 - 6750 (да гэтага - 6350), Дызельнае паліва - 7650 (да гэтага - 7300).

Але павышэнне коштаў на праезд ніякім чынам не паўплывала на стратнасць працы Гарадоцкага філіяла аўтапарка №1 г. Віцебска. Кошт праезда па Гарадку і раёну мае сімвалічнае значэнне ў параўнанні са стратамі прадпрыемства, якія ужо амаль дасягнулі чатырохмільярдний мяжы. Інакш і не магло і быць, бо акуплялынасць маршрутаў вагаецца ад 15% да 45% і кладзецца на страты прадпрыемства.

Пры спыненні ў 2007 годзе ранейшых аб'ёмаў нафтагазавых датацый з Усходу прадпрыемства не атрымала ніводнага аўтобуса за апошнюю пяцігодку і амаль палова аўтобуснага парку мае стопрацэнтны знос. Кіроўцы працуюць на аўтобусах, якія павінны быць спісаны і адпаведна рызыкуюць жыццём пасажыраў, асабліва ў зімовы час.

Дадзенае сітуацыя па Гарадку не з'яўляецца выключэннем з агульнага становішча з аўтобусным абслугоўваннем у райцэнтрах і гарадах Віцебшчыны. Сельскае насельніцтва вобласці імкліва скарачаецца і аўтобусы на сельскіх маршрутах перавозяць больш паветра, чым пасажыраў. Акрамя крызіснага стану аўтобусаў аўтапаркі вобласці маюць вялікую патрэбу ў кіроўцах. Недахоп кіроўцаў складае сотні працоўных месцаў у маштабах Віцебшчыны: укамплектаванасць штата кіроўцаў у аўтапарках вобласціскладае 70% и менш. Так па Воршы са 170 кіроўцаў не хапае 38, па Наваполацку і часткова Полацку са 160 не хапае 50, а ў аўтапарку №1 г. Віцебска з 350 кіроўцаў не хапае амаль кожнага трэцяга – 100.

І павышэнне кошту праезду на сто рублёў ніякім чынам не палепшыць становішча аўтобуснага транспарту, як на Гарадочыне так і на Віцебшчыне.

**Л. Антонаў.**

ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМУ

# ЧЫНОЎНІКІ НЕ БАЧАЦЬ ЗМЯНЕННЯ ПОПЫТУ

**Кіраўніцтва райвыканкама, аўтапарка не звяртае ўвагі на змяненне попыту жыхароў Гарадка на транспартныя паслугі. Для мясцовых чыноўнікаў па-за ўвагай застаецца павялічаны попыт жыхароў Гарадка, асабліва мікраараёна Гагарына, на аўтобусны рэйс да першага дызеля на Віцебск.**

Эканамічны крызіс і вельмі танны кошт білета на прыгарадны маршрут дызеля Гарадок-Віцебск вымушае дзесяткі жыхароў Гарадка карыстацца чыгуначным транспартам. Студэнты, працуючыя ў Віцебску, Доўжы, пенсіянеры зараз аддаюць перавагу дызелю, кошт на які ў 5-6 разоў меншы, чым на аўтобус або таксоўку на Віцебск. Сапраўды кошт праезду на дызелі ў 2450 рублёў непараўнальна меншы, чым на аўтобусе ці таксоўцы з аплатай у 12-15 тысяч рублёў.

Але вялікай нязручнасцю для гарадакчан з'ўлецца адсутнасць першага аўтобуснага рэйса да 6.25, калі дызель Езярышча-Віцебск накіроўваецца ў бок абласнога цэнтра. Каля 50-70 пасажыраў штодзённа ў будныя дні карыстаюцца паслугамі першага дызеля. Значная колькасць іх дабіраецца сваім ходам з мікрараёна Гагарына і з новага мікрараёна каля бальніцы.

Першы маршрут гарадскога аўтобуса ў 6.00 з Гагарына карыстаўся бы значным попытам у жыхароў Гарадка асабліва ў асенне-зімовы перыяд з дажджамі і завірухамі. Ды і па рэнтабельнасці ён быў бы самаакуплялыны і на ім не перавозілася бы паветра, як на многіх сельскіх маршрутах. Вырашэнне дадзенага пытання не патрабуе асаблівых выдаткаў, а было б вельмі карысным для грамадзян, якія накіроўваюцца ў Віцебск першым дызелем. Толькі б чыноўнікі не забыліся пра сваечасовае абвяшчэнне адкрыцця дадатковага рэйсу.

**Л. Антонаў.**

ДАРЭМНАЯ ПРАЦА

# ДОШКА ГАНЬБЫ НА ВУЛІЦЫ ЛІХТАРОЎ

**Гарадоцкае прадпрыемства кацельных працягвае ганьбіць неплацельшчыкаў камунальных паслугаў.**

Пасля рэканструкцыі вуліцы Савецкай з ператварэннем яе ў пешаходную Гарадоцкае прадпрыемства кацельных аднавіла дзейнасць Дошкі ганьбы. Пры еўрапейскім выглядзе вуліцы са скамейкамі, ліхтарамі і непрацуючым фантанам зусім па саўковаму выглядае Дошка ганьбы.

Ні ў водным еўрапейскім горадзе камунальныя службы не ідуць на парушэнне права грамадзян на недатыкальнасць прыватнай інфармацыі. Толькі суд можа прыняць рашэнне наконт адкрытасці прыватнай інфармацыі аб даўгах. Але ніякі суд у цывілізаванай краіне не будзе даваць дазволу на дасудовае ганьбаванне грамадзян. Але юрысты Гарадоцкага прадпрыемства кацельных, разам з яго кіраўніцтвам не абцяжарваюць сябе пытаннямі законнасці сваіх дзеянняў і суадносінамі іх з павагай да правоў спажыўцоў.

Па выніках апошняга месяца лета на Дошку ганьбы занесены прозвішчы 132 спажыўцоў, якія маюць запазычанасць за ацяпленне і паслугі ЖКГ. Самую вялікую запазычанасць лічаць у Гарадоцкім прадпрыемстве кацельных маюць грамадзяне па невыплаце грошаў за паслугі ЖКГ. Даўгі па версііі прадпрыемства складаюць у самых вялікіх даўжнікоў больш трох і чатырох мільёнаў рублёў. Пры гэтым у Гарадку няма спажыўцоў з доўгам за ацяпленне больш мільёна рублёў. Такія даўжнікі ёсць у Пальмінцы, Бычысе. Наогул даўжнікоў за ацяплення у тры разы менш, чым даўжнікоў за неаплату паслугаў ЖКГ. Для спажыўцоў не бачна выкананне гэтай паслугі -- вось яны і лічаць непатрэбным аплачваць тое чаго не бачна. Гэта датычыцца даўжнікоў са Сцяпанавіч, Дуброва, Даўгаполля, Селішча, Мяжы, якія не аплачваюць паслугі ЖКГ каторы месяц.

Дарэчы і ўздзеянне гэтай дошкі на неплацельшчыкаў з вёсак -- мінімальнае. Ад абнаўлення Дошкі ганьбы грошаў у нашых сяльчан не дадасца. Ды і плаціць будуць па магчымасці. Выклікае ж гэта Дошка толькі злобу ў грамадзян і ў чарговы раз была знішчана. Кошт на яе аднаўленне дастаткова, каб на аднаго-двух даўжнікоў стала меней. Толькі чыноўнікі мусіць думаюць інакш.

**Л. Антонаў.**

*Аб'ява*

**Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info**
**Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.**
**Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.**
**Рэдакцыя шукае дабраахвотных распаўсюджвальнікаў газеты "Гасцінец", а таксама аўтараў публікацый. Магчыма узаемавыгаднае супрацоўніцтва. Звяртацца на тэлефон рэдакцыі.**

НАША ПАМЯЦЬ

# АБЫЯКАВАСЦЬ ДА ПАМЯЦІ НЯБОЖЧЫКАЎ

**За амаль адзіннаццаць гадоў прыняцця закона "Аб пахаванні і пахавальнай справе" Гарадоцкі райвыканкам не парупіўся аб тым, каб галоўныя могілкі Гарадка адпавядалі патрабаванням заканадаўства. Гэта адбываецца пры маўклівай згодзе кантралюючых органаў, якія штрафуюць грамадзян за дробязі, а не звяртаюць ўвагі на ігнараванне заканадаўства мясцовай уладай.**

Іванаўскія могілкі, створаныя на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя, застаюцца апошнім прытулкам на нашай зямлі ўжо не для аднаго пакалення жыхароў Гарадоччыны. Па адносінах да могілак магчыма рабіць высновы аб рэальным клопаце ўладаў і да жывых. І гэтыя адносіны выглядаюць нялюдскімі. Пры пэўным росце рэлігійнай свядомасці ў грамадстве ў Гарадку не адбылося ніякага росту свядомасці ўладаў да пахавальнай справы.

Іванаўскія могілкі застаюцца мусіць адзінымі гарадскімі могілкамі на Віцебшчыне, якія не маюць агароджа. Таксама на могілках няма вызначаных месцаў збору смецця, грамадскай прыбіральні, асвятлення, стваraюцца несанкцыянаваныя кучы смецця і г.д.. Між тым, усе вышэй названыя элементы дабраўпарадкавання могілак павінны быць у абавязковым парадку на грамадскіх могілках, але адсутнічаюць у Гарадку..

На пачатку цяперашняга стагоддзя Іванаўскія могілкі мелі агароджа, але яна перасталі ўмяшчаць новых нябожчыкаў. Новыя пахаванні стыхійна паўсталі каля самых праездаў на могілкі без усякага рэагавання з боку адказных чыноўнікаў. Праблему пашырэння межаў Іванаўскіх могілак вырашылі за кошт былых агародаў у накірунку вуліцы Старапалацкай. І зараз родзічы нябожчыкаў вымушаны ўлетку змагацца з пустазеллем, якое буяе на былых агародах.

Заканадаўства патрабуе, каб пахавальная справа была пэўным чынам арганізавана: выдзеляліся сектары і участкі для пахавання пад нумарамі, вытрымліваліся нарматывы, як бясплатнага прадстаўлення месцаў, так і платнага, была незалежная вадаправодная сетка для паліву, наяўнасць грамадскай прыбіральні, асвятлення, месцы для збору смецця і г.д.. Але нічога гэтага на галоўных могілках Гарадка не створана. Пасярод могілак растуць стыхійныя кучы смецця. А каля пастаўленых скрыняў для збору смецця растуць яго горы, якія своечасова не вывозяцца. Новая тэрыторыя пахавання не мае межаў і стыхійна рухаецца да асфальта. Праз могілкі пралягла дарога да вуліцы Зялёнай, якая актыўна выкарыстоўваецца аўтаматарамі, бо яны не разызыкуюць ехаць на яе праз дабітую каменку і аварыйны мост праз Гаражанку. Абяцаная стаянка для аўтамашын так і застаецца нерэалізаваным абяцаннем камунальнікаў.

І калі нам з высокай трыбуны адзін грамадзянін заяўляе, што за цывілізаваным светам краіну не павядзе, то гарадоцкія улады на справе гэта абяцанне выконваюць. За дзесяць гадоў нічога не зроблена на Іванаўскіх могілках, каб яны набылі цывілізаваны выгляд. Справа ўжо дайшла да таго, што з недагледжаных уладамі могілак пачалі красці метал з прыватных агароджаў.

**Л. Гаравы.**

ЗЯЛЁНАЯ ЗОНА

# Да парадку праз штрафы

**Аўтааматараў, навучэнцаў Гарадоцкага агратэхнічнага коледжу, супрацоўнікі Гарадоцкага ДАІ прымусілі паркавацца за межамі зялёнай зоны інтэрната. А справа пачалася з крадзяжу абсталявання і паліва з легкавых машын, якія студэнты пакідалі ля інтэрната на зялёнай зоне.**

Апошнія два тыдні адбывалася высвятленне абставін крадзяжоў з машын навучэнцаў Гарадоцкага агратэхнічнага коледжу і адпаведнасці правілам ПДР паркоўкі іх аўтамабіляў. Пачатак гэтай справы быў пакладзены зваротам навучэнца коледжа з машыны якого злачынцы скралі люстэркі, а таксама ў сувязі з тым, што злачынцы пакінулі сляды сваіх абуткаў на даху машын і нанеслі шкоду іншым машынам, якія паркаваліся ля інтэрната.

Пачатак высвятлення абставін крадзяжу прывёў да складання некалькіх пратаколаў аб парушэннях правілаў паркоўкі з боку пацярпелых. Аўтааматары, парушаючы патрабаванні ПДР, паркаваліся на газоне каля інтэрнату, што мае змест адміністратыўнага правапарушэння. Але акрамя парушэння правілаў паркоўкі частка кіроўцаў забылася аб неабходнасці своечасовага праходжання тэхнічнага агляду аўтамабіля, а таксама пра своечасовае афармленне абавязковага страхавання. У выніку пацярпеўшы і яго знаёмыя павінны сплаціць не адзін мільён рублёў штрафу за парушэнні патрабаванняў правілаў дарожнага руху.

Штрафаў наконт паркоўкі ў зялёнай зоне інтэрнатаў магчыма было пазбегнуць, калі б студэнты паслухаліся прапаноў адміністрацыі коледжу і паркаваліся на мехдвару навучальнай установы. Толькі штрафы прымусілі зараз навучэнцаў скарыстацца гэтай бясплатнай паслугай установы і вызваліць зялёную зону ля інтэрната.

Злачынцаў, якія нанеслі шкоду інтарэсам аўтаматараў, пакуль не знайшлі. І гэтыя мусіць правапарушальнікі скралі колы з яшчэ адной аўтамашыны навучэнца коледжа, якая паркавалася ў мікраразёне коледжа. Гэтыя гісторыі сведчаць, што аўтаматары павінны загадзя клапаціцца аб захаванасці сваіх аўтамашын і пакідаць іх на ахоўваемых стаянках. На жаль, у Гарадку такія стаянкі могуць прапанаваць толькі дзяржаўныя прадпрыемствы на сваіх тэрыторыях.

**Л. Антонаў.**

ЭКАНАМІЧНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

# Хуткі рост запазычанасці за энергетычныя рэсурсы

**Пачатак восені гаспадарчыя суб'екты Гарадоччыны сустрэлі з вялікім ростамдаўгоў за аплаце крэдытаў за паліўна-энергетычныя рэсурсы. Фактычна Гарадоччына напярэдадні ацяпляльнага сезону не можа аплаціць ні дровы, ні газ, які спажываюць кацельныя.**

Найлепшая сітуацыя з вяртаннем крэдытаў за паліўна-энергетычныя рэсурсы была дасягнута ў красавіку, калі завяршыўся ацяпляльны сезон і спажыўцы аплацілі апошнія рахункі за ацяпленне. Тады запазычанасць дасягнула 1, 126 млрд. рублёў і была яшчэ параўнальна з даўгамі за крэдытныя рэсурсы ў 2011 годзе – 1,095 млрд. рублёў.

Толькі калі ў мінулым годзе запазычанасць па крэдытам далей змяншалася, то ў гэтым годзе даўгі па крэдытах сталі расці і дасягнулі паводле даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта на канец жніўня амаль трох мільярдаў рублёў – 2,979 млрд. рублёў. Гэта амаль у пяць разоў больш чым за аналагічны перыяд мінулага году – 606 млн. руб. І гэтая негатыўная дынаміка самая горшая сярод раёнаў Віцебшчыны.

Найбольшыя ж даўгі за паліўна-энергетычныя рэсурсы мае Шумілінскі раён, які асабліва і не разлічваецца за крэдыты. Запазычанасць суседзяў па даных крэдытах склала больш нашых у дзесяць разоў і дасягнула 31,169 млрд. рублёў, а год назад была – 13,323 млрд. рубл.. Зусім малая запазычанасць у Віцебскім раёне – 64 млн. рубл., а таксама ў Бешанковіцкім раёне – 217 млн. рубл.

Дадзеная сітуацыя з даўгамі вынік эканамічнай палітыкі уладаў, калі дзяржава на Віцебшчыне датуе да87% выдаткаў па камунальных паслугах. І гэта пры тым, што ў бюджэце на 2012 год была запланавана кампенсацыя на ўзроўні толькі 65%, а спажыўцы аплачваюць толькі 13,5% гэтых выдаткаў.

Пакуль гэта разніца кампенсавалася за кошт прафіцыту абласнога бюджэту, які склаўся ў значнай меры за кошт шэрых схемаў з гандлем растваральнікамі. Але зараз гэтыя схемы закрыты і паўстае праблема рэальнай аплаты насельніцтвам камунальных выдаткаў. "Дошкамі ганьбы", якія шырока практыкуюцца на Віцебшчыне, эканаміяныя праблемы не вырашыць.

**Л. Гаравы.**

ТАКІ ПАРАДАК

# МБА. САСТАРЭЛЫЯ НАЗВЫ АЎТОБУСНЫХ ПРЫПЫНКАЎ

**Праз дваццаць гадоў незалежнага існавання ў Гарадку працягваюць існаваць назвы аўтобусных прыпынкаў дадзеныя ў савецкія часы. Час спыніўся?**

Больш дваццаці гадоў існуе Рэспубліка Беларусь. За гэты час вырасла новае пакаленне, якое цьмяна ўяўляе міты савецкай эпохі – КПСС, Ленін, камунізм. Напачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя атрыманне незалежнасці давала шанец краіне на еўрапейскае развіццё, дасягненне еўрапейскага узроўня жыцця. Гэтага дасягнулі нашы суседзі з Захаду і Поўначы – Польшча, Эстонія, Літва, Чэхія, Славакія і іншыя краіны. Беларусь жа застыла ў мінулым, падмануўшыся ў 1994 папулісікімі лозунгамі дырэктара саўгаса.

З таго часу ў краіне закансервавалася савецкая ментальнасць з савецкімі светаўспрыняццем. Яскравае сведчанне таму – назвы аўтобусных прыпынкаў у Гарадку, якія мала што кажуць маладаму пакаленню. "МБА","Калгасны рынак" – самыя цікавыя прыклады існуючай бязглуздзіцы.

"МБА" на вул. Гагарына атаясамляецца з першай межкалгаснай будаўнічай арганізацыяй, якая узнікла ў Гарадку на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Прымітыўныя спробы адаптацыі МБА да рынкавых умоў у гады незалежнага існавання прывялі да яе распаду, бо яна прайгралы будаўнічы рынак больш мабільнай працы "ПМК-51". У 2003 годзе арганізацыя спыніла сваё існаванне, а яе маёмасці была перададзена жыллёва-камунальнай гаспадарцы. У 2011 годзе ЖКГ далучылі да Гарадоцкага прадпрыемства кацельных, якое дэманстравала больш эфектыўную працу. Адміністрацыйны ж будынак ЖКГ ў гэтым годзе перайшоў ва ўласнасць Следчага камітэта.

Вось і атрымалася – няма ні межкалгаснай будаўнічай арганізацыяй, ні офіса жыллёва-камунальнай гаспадарцы, але абрэвіатура МБА існуе. На нармальны розум гэтаму прыпынку даўно пара даць адэкватную назву АЗС "Лукойл", каля якой ён і размешчаны.

Не менш рэтраспектыўна глядзіцца назва прыпынка "Калгасны рынак" на пачатку вуліцы Чырвонаармейскай. Сам рынак спыніў сваё існаванне шчэ чвэрць стагоддзя назад. Толькі напрыканцы 90-х гадоў на яго месца часова перамясцілі прыватнікаў, калі знікла для іх перспектыва каля Ашчабнага банка. Калгасы ж сканалі таксама напрыканцы 90-х гадоў праз мэтанакіраванае ўзбуйненне пры катастрафічным масавым выміранні сельскага насельніцтва.

З тых часоў каля была рынка пабудаваны сучасны будынак касцёла і адпаведна напрошваецца назва прыпынка "Касцёл". Зараз ад адэкватнасці кіраўніцтва Гарадоцкага райвыканкама залежыць – колькі шчэ будуць існаваць незразумелыя для маладога пакалення назвы прыпынкаў: "МБА", "Калгасны рынак".

**Л. Гаравы.**

ВАС АБСЛУГОЎВАЮЦЬ

# НОВЫ ВІД ПАСЛУГАЎ

**З лета гэтага года ў Гарадку дзейнічае новы від паслугаў у сферы транспарта. Жыхары і госці могуць замовіць таксі па гораду і ваколіцах.**

Прыватны сэрвіс у сферы транспартных паслугаў моцна развіўся ў Гарадку за апошнія гады. Колькасць таксоўшчыкаў на маршруце Гарадок – Віцебск – Гарадок наблізілася да дзесяці. Прыватныя таксоўшчыкі выконваюць усе патрабаванні да тэхнікі бяспекі, уплаты падаткаў і фактычна перамагаюць дзяржаўны аўтасервіс у сферы транспартных паслугаў. Колькасць прыватнікаў за апошнія гады вырасла, а колькасць афіцыйных маршрутаў паміж Гарадком і Віцебскам скарацілася. Якасць паслугаў у прыватнікаў вышэйшая за кошт выкарыстанне сучасных інамарак і больш людскіх адносін да спажыўцоў. Камфортнасць паездкі ў мінівэнах "Форд", "Сітраен" не параўнальна з паездкай у дабітых "газелях", якія яшчэ часам ламаюцца і ствараюць пасажырам значныя нязручнасці. Не кажучы ужо пра цеплыню зімой у салонах прыватных таксовак і холад у "Газелях" ці аўтобусах айчынай вытворчасці.

За апошнія месяцы да маршрута паміж Гарадком і Віцебскам дадаўся новы від паслугаў – транспартныя перавозкі ў Гарадку. Два маладых чалавека Алег (тэл. 1575412 – Вэлкам) і Андрэй (тэл. 2190056 – МТС) гатовы аператыўна даставіць пасажыра ў любы пункт Гарадка і раёна. Кошт аплаты паездкі пачынаецца з 15 тысяч рублёў і павялічваецца ў залежнасці ад адлегласці паездкі.

Кошты паездкі канешне немалыя для спажыўцоў, але выкліканы як пэўнай неразвітасцю канкурэнцыі ў гэтым сегменце паслугаў, так і вялікімі выдаткамі, якія нясуць прыватнікі па ўтрыманню аўтамашын і падаткамі перад дзяржавай. Сказваецца і збядненне насельніцтва, якое імкнецца сэканоміць кожную капейку. Значная колькасць студэнтаў, жыхароў Гарадка стала часцей карыстацца паслугамі чыгуначнага транспарта, а таксама афіцыйнымі маршрутамі Гарадок-Віцебск. Крызіс мінулага года шчэ не пераадолен і узровень жыцця не дасягнуў дакрызіснай мяжы. Але новы від паслугаў у Гарадку пачаў развівацца і ёсць шанцы, што будзе дзейнічаць і далей.

**Л. Антонаў.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# БЕЛАРУСІ НЕАБХОДНА РУХАЦЦА Ў БОК ЕЎРОПЫ

ЛІДАР РУХУ «ЗА СВАБОДУ» АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ ЛІЧЫЦЬ НАТУРАЛЬНЫМ ПРАЦЭС ПАЛІТЫЗАЦЫІ ГРАМАДСКІХ АБ'ЯДНАННЯЎ У БЕЛАРУСІ. ПРА ГЭТА ЁН ЗАЯВІЎ, ВЫСТУПАЮЧЫ 20 КАСТРЫЧНІКА НА СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ АРГАНІЗАЦЫІ Ў МІНСКУ.

Паводле слоў Мілінкевіча, ён «бачыць развіццё «За Свабоду» як грамадска-палітычнага руху». Пры стварэнні арганізацыі, зазначыў ён, ставіліся «агульныя і простыя мэты: дэмакратыя ў краіне, незалежнасць Беларусі, шлях у Еўропу». «Беларусь, калі мы хочам жыць у незалежнай краіне, павінна рухацца ў бок Еўропы. Рух ва ўсходнім напрамку — гэта страта суверэнітэту», — упэўнены палітык.

Аднак сёння, мяркуе Мілінкевіч, ні беларусы не гатовы стаць часткай Еўропы, ні Еўропа не гатова прыняць Беларусь. «Але ў нас ёсць усё неабходнае, каб стаць часткай Еўропы ў наступным — у нас высокая адукацыя, мы маем высокі эканамічны патэнцыял. Мы ставім сваёй мэтай даць беларусам больш праеўрапейскай інфармацыі і еўрапейскага аптымізму», — заявіў лідар Руху «За Свабоду».

Ён лічыць важным аб'яднанне апазіцыі. «З аднаго боку, апазіцыя давала прыклады, што яна можа аб'ядноўвацца. Фармальна мы гэта рабілі, але затым не заўсёды працавалі разам», — сказаў Мілінкевіч, які на прэзідэнцкіх выбарах 2006 года быў адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад дэмакратычных сіл.

Лідар «За Свабоду» нагадаў, што з 2007 года апазіцыя яшчэ не правяла ніводнага дэмакратычнага кангрэса, дзе маглі б абмеркаваць праблемы і выпрацаваць агульную стратэгію. А барацьба ўнутры апазіцыі, на думку Мілінкевіча, наогул «вельмі шкодная».

«Думаю, мы зможам выйсці на адзінага кандыдата на наступных прэзідэнцкіх выбарах, але гэта — не самамэта. Наша мэта — незалежная дэмакратычная Беларусь», — падкрэсліў палітык.

Пры гэтым Мілінкевіч мяркуе, што моцны адзіны кандыдат неабходны не толькі на выбарах, у якіх бярэ ўдзел Лукашэнка. «На выбарах з Лукашэнкам адзіны кандыдат неабходны. А калі рэжым упадзе? Ці зможа перамагчы менавіта дэмакратычны кандыдат? На 100% гэта сказаць нельга. Папулісты могуць перамагчы, прарасійскія кандыдаты», — мяркуе лідар Руху «За Свабоду».

**БелаПАН.**

АНТЫБЕЛАРУСКАСЦЬ

# ЗА АДНУ НАЗВУ «БУЛЬБАШЪ» ТРЭБА ПАДАВАЦЬ У СУД

ПАЛІТЫК ЗЯНОН ПАЗНЯК ПАДЗЯЛІЎСЯ З ЕЎРАРАДЫЁ МЕРКАВАННЕМ НАКОНТ ТАГО, ШТО КАЛЯ КУРАПАТ МОЖА БЫЦЬ ПАБУДАВАНЫ ЗАБАЎЛЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС «БУЛЬБАШЪ-ХОЛЛ».

**— Што вы думаеце наконт будаўніцтва забаўляльнага комплексу «Бульбашъ-холл» каля ўрочышча Курапаты?**

— У краіне, дзе ўлада праводзіць антыбеларускую палітыку, гэта не можа быць выпадковасцю — гэта сістэматычная праява антыбеларускай палітыкі, праяўленне этнацыду. На жаль, гэта не адзінкавы выпадак: за апошнія дзесяць гадоў было некалькі спробаў знішчыць Курапаты. Самая скандальная спроба, калі ў 2001 годзе будавалі аўтастраду, у 2002 годзе зрабілі адвод вады пад крыж, выкапалі 40-метровую траншэю і хацелі зрабіць вадасцёкі. І тады пад крыжам у Курапатах было балота і твань, сябры КХП-БНФ прыйшлі з рыдлёўкамі і за адзін дзень засыпалі гэты роў. У 2006 годзе быў запраектаваны «Горад Сонца» каля самых Курапатаў — гэта быў бы комплекс для заможных людзей, прадугледжвалася пабудова катэджаў. З цяжкасцю ўдалося гэтага пазбегнуць. Трэба адзначыць, што грамадскасць, якая бараніла Курапаты, здолела дамагчыся таго, што была створаная ахоўная зона вакол. Мала таго, што Курапаты прызнаныя помнікам, але існуе зона, дзе нельга нічога будаваць і рабіць. І ёсць зона рэгуляванай забудовы, дзе можна будаваць не вышэй за адзін-два паверхі, але не вызначана, якія функцыі мусяць быць у гэтых будынкаў. Акурат гэта і выкарыстаў рэжым, там пачынаюць будаваць аб'екты, якія супярэчаць мемарыяльнай памяці, павазе да народы і гісторыі. Справа цёмная, што там пабудуюць — можа быць, і патаемны бардэль. Хаця, у краіне прастытуцыя пад забаронай. Больш за тое, гэты рэстаран у праектнай дакументацыі называецца «Бульбашъ» з цвёрдым знакам — гэта ў першую чаргу праява ксенафобіі і нацыянальнай нянавісці на бытавым узроўні. Гэта знявага нацыянальнага гонару. Толькі за адну такую назву трэба падаваць у суд. Але пабудова гэтага комплексу — толькі пачатак, плануецца рэалізацыя яшчэ аднаго праекта гандлёвага цэнтра, гэта чарговая знявага нацыянальнай святыні.

**— У інтэрнэце разгарнулася дыскусія, што людзі ў Заходняй Еўропе жывуць і функцыянуюць каля могілак — і нічога страшнага не адбываецца. Ці карэктна параўноўваць сітуацыю вакол Курапат з гэтай практыкай?**

— У Заходняй Еўропе няма антыеўрапейскага рэжыму: няма антыпольскай, антычэшскай улады, няма пераследу за мову, няма такога блюзнерства. Так, сапраўды, могуць жыць людзі каля могілак, але павінна быць функцыянальнае рэгуляванне такой тэрыторыі. Там не можа быць басейнаў, стадыёнаў — гэта рэгулюецца мараллю, традыцыяй у цывілізаваных краінах. У Еўропе гэтага няма ў законе, бо рэгулюецца культурай, а ў Беларусі сваа культура нішчыцца. Няможна ладзіць канкан на труне.

ДАЛУЧАЙСЯ!

# «СТОП БУЛЬБАШЪ ХОЛЛ!»

У ІНТЭРНЭЦЕ ПАЧАЛІСЯ АКЦЫІ СУПРАЦЬ БУДОЎЛІ ЗАБАЎЛЯЛЬНАГА КОМПЛЕКСУ ЛЯ КУРАПАТАЎ

На сайце онлайн-пэтыцый change.org пачаўся збор подпісаў пад зваротам да старшыні Менскага аблвыканкаму, міністра культуры і генэральнага пракурора Беларусі з патрабаваньнем спыніць будоўлю «Бульбашъ Холу» на месцы пахаваньня дзясяткаў тысяч беларусаў, расстраляных сталіністамі ў Курапатах.

«Мы патрабуем спыніць будаўніцтва бардэля з назвай „Бульбаш-хол", якая абражае беларускую нацыю, на месцы ўрочышча Курапаты, якое афіцыйна прызнана гістарычна-культурнай каштоўнасьцю.

Мы таксама патрабуем прыцягнуць да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасьці заказчыка будаўніцтва СТАА „БелРэстІнвэст", арганізацыю „Наша рэстаранная група", ТАА „Белнаватэкс груп" і адказных службовых асобаў, якія дапусьцілі будаўніцтва гэтага аб'екта.

Да забаўляльных установаў зараз актыўна вядуць падземныя камунікацыі — водаправод, каналізацыю, электрычныя і тэлефонныя кабэлі... Ня выключана, што пры гэтым могуць патрывожыць брацкія магілы», — гаворыцца ў пэтыцыі, якую паводле стану на 25 кастрычніка падпісалі 250 чалавек.

Акцыю «Стоп Бульбашъ Холл!» пачалі таксама ў Фэйсбуку.

**Валер Каліноўскі.**

ЖЫЦЬ КРАСІВА

# ЧАРГОВЫ ШЫК НА ПАЎТАРАМІЛЬЯРДА ЗА НАРОДНЫЯ ГРОШЫ

ТЭНДЭР НА ЗАКУПКУ ТРОХ ЛЕГКАВЫХ АЎТАМАБІЛЯЎ АГУЛЬНЫМ КОШТАМ 1,42 МІЛЬЯРДА РУБЛЁЎ АБВЯСЦІЎ ВІЦЕБСКІ АБЛАСНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ. МЯРКУЮЧЫ ПА ТЭХНІЧНЫХ ПАТРАБАВАННЯМ У ЗАЯЎЦЫ, ВІЦЕБСКІЯ СЛУГІ НАРОДА ЗБІРАЮЦЦА КАЛЯСІЦЬ ПА ГОРАДЗЕ Ў ПАЎНАПРЫВАДНЫХ SKODA SUPERB 4X4 3.6 FSI.

Зыходзячы з заяўленай сумы адзін такі «членовоз» абыйдзецца абласному бюджэту прыкладна ў 55 000 даляраў. Па горадзе на 100 кіламетраў шляху гэтая машына марнуе 14,7 літраў бензіну АІ-95. Такім чынам, за 1 кіламетр шляху чыноўніка пры сённяшніх цэнах жыхары Віцебшчыны заплацяць каля 1100 рублёў.

Каб не адцягваць ад дум пра патрэбы горада і вобласці, у салоне оаблвыканкамаўскага аўтамабіля павінна быць камфортна. Згодна з тэндэра належную зручнасць "государева" чалавека закліканы забяспечыць: скураны салон Glamour - кошт гэтай опцыі каля 2000 даляраў; аздабленне пад дрэва Noblesse і магнітола 2 DIN CD і MP3 - прыкладна па 200 даляраў. Таксама чамусьці павінен быць руль з чатырма спіцамі, а ў шклапад'ёмнікаў - блакіроўка ад дзяцей.

Зрэшты, варта адзначыць, што гэта параўнальна сціплыя запыты. Напрыклад старшыня Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта Аляксандр Косінец аддае перавагу перасоўванню на Audi A8L W12 (на фота) коштам больш за 200 000 даляраў. 12-цыліндравы рухавік губернатарскага аўто спажывае ў горадзе 18,2 літра безніна АІ-95 на 100 кіламетраў. Такім чынам шлях губернатара з дома да аблвыканкама абыходзіцца падаткаплатнікам прыкладна ў 5400 рублёў.

**Сяржук Серабро, «Народныя навіны Віцебска».**

НЕДАВЕР ЭКСПЕРТАЎ

# ЭКСПЕРТЫ НЕ ВЕРАЦЬ ПРАГНОЗАМ МЯСНІКОВІЧА

«БЮДЖЭТАМ РАЗВІЦЦЯ» НАЗВАЎ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР БЕЛАРУСІ ПРЫНЯТЫ ПАЛАТАЙ ПРАДСТАЎНІКОЎ АСНОЎНЫ ФІНАНСАВЫ ЗАКОН КРАІНЫ. АДНАК, У НЕЗАЛЕЖНЫХ ЭКАНАМІСТАЎ ПРАГНОЗЫ КІРАЎНІКА ЎРАДА ВЫКЛІКАЮЦЬ ВЕЛЬМІ ВЯЛІКІЯ СУМНЕВЫ.

Урад зробіць усё для росту валавога ўнутранага прадукту ў гэтым годзе на 5-5,5%, запэўніў Міхаіл Мясніковіч. У наступным годзе, паводле слоў кіраўніка ўрада, ВУП Беларусі і зусім павялічыцца на 8,5%, піша «Заўтра тваёй краіны».

Эканаміст Леанід Злотнікаў скептычна ацэньвае гэтыя планы ўрада.

- Я не разумею адкуль возьмецца рост ВУП у гэтым годзе. Пабудаваць у кожным раёне па 10 сучасных эфектыўных прадпрыемстваў, мадэрнізацыя больш за палову дзеючых фабрык і заводаў, нерэальна. На гэта няма ўласных рэсурсаў. Хіба што, як у сталінскія часы, прымушаць насельніцтва набываць аблігацыі і такім чынам знаходзіць грошы на інвестыцыі.

Але цяпер прымусіць насельніцтва да падобнай «дабрачыннасці» наўрад ці ўдасца. А прыцягнуць з-за межаў краіны 4-5 мільярдаў даляраў інвестыцый, як гэта плануе ўрад, на думку, эканаміста таксама нерэальна.

- Нават калі ўлады знойдуць грошы на мадэрнізацыю прадпрыемстваў, у нас няма тэхналогій, абсталявання, неабходнага колькасці спецыялістаў для яе правядзення, - лічыць эксперт.

Фармальна паказчыкі па валавому ўнутранаму прадукту ўрад можа зрабіць, калі, як у мінулыя гады, у краіне зноў пачнуць друкаваць велізарная колькасць не зробленых грошай.

- Але да рэальнага паляпшэнню жыцця беларусаў гэта не прывядзе, - перакананы былы старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч. - У гэтым годзе прадукцыйнасць працы ў Беларусі вырасла прыкладна на 3%, а даходы насельніцтва, паводле афіцыйнай статыстыкі, павялічыліся на 10%. На паперы такое магчыма. Але рэальны ўзровень жыцця павысіць усё роўна не атрымаецца, - падкрэслівае прафесар.

Па словах эканаміста, для ўрада галоўным павінен быць не ВУП, а рэнтабельнасць прадпрыемстваў, паспяховая знешняя гандаль.

- Вал - гэта адміністрацыйны паказчык. Ён павінен быць другарадным ў планах кіраўніцтва краіны. Асноўная ўвага неабходна надаць эфектыўнасці эканомікі. Менавіта ад яе залежыць дабрабыт беларусаў, - адзначае Станіслаў Багданкевіч.

**www.belaruspartisan.org.**

ВАЛЮТНЫЯ ДЭПАЗІТЫ

# НАСЕЛЬНІЦТВА ПАВЯРНУЛАСЯ СПІНОЙ ДА РУБЛЯ

ГАЛОЎНЫ ТРЭНД ЦЯПЕРАШНЯЙ ВОСЕНІ - УСТОЙЛІВЫ ПОПЫТ НА ВАЛЮТНЫЯ ДЭПАЗІТЫ. ІНТЭРНЭТ-ГАЗЕТА NAVINY.BY ВЫРАШЫЛА РАЗАБРАЦЦА, ЧАМУ ПАВОДЗІНЫ ЎКЛАДЧЫКАЎ ВОСЕННЮ ЗМЯНІЛАСЯ І ЧАГО МОЖНА ЧАКАЦЬ НА РЫНКУ ДЭПАЗІТАЎ У БЛІЖЭЙШЫЯ МЕСЯЦЫ.

**Высокі попыт на ўклады з нізкім рызыкай**

У верасні беларускія банкі былі вымушаныя знізіць даходнасць па ўкладах у замежнай валюце. У буйных банках стаўка па валютных дэпазітах знізілася да 3-4% гадавых. Тым не менш, гэта не адбіла ў насельніцтва паляванне захоўваць зберажэнні ў далярах. Больш за тое, ўкладчыкі пачалі пераводзіць рублёвыя дэпазіты ў замежную валюту.

У верасні, паводле апошніх статдадзеных, насельніцтва паменшыла тэрміновыя дэпазіты ў нацвалюце на 738 млрд. рублёў (зніжэнне на 5,1%) да 13,65 трлн. рублёў на 1 кастрычніка.

Адначасова з гэтым у верасні скараціўся аб'ём рублёвых укладаў і прадпрыемстваў - за першы восеньскі месяц тэрміновыя дэпазіты юрыдычных асоб у нацвалюце зменшыліся на 823,2 млрд. рублёў (зніжэнне на 5,5%) да 14,2 трлн. рублёў на 1 кастрычніка.

У той жа час у верасні істотна выраслі валютныя ўклады як насельніцтва, так і прадпрыемстваў. Аб'ём інвалютных дэпазітаў фізічных асоб павялічыўся за месяц на 5,5% да 45,3 трлн. рублёў, юрыдычных асоб - на 8,6% да 23,2трлн. рублёў на 1 кастрычніка.

Такім чынам, у першым восеньскім месяцы назіраўся ператок рублёвых укладаў у валютныя. Рост дэпазітаў у замежнай валюце можна таксама растлумачыць тым акалічнасцю, што і свабодныя сродкі, наяўныя на руках, ўкладчыкі аддавалі перавагу несці ў банк у замежнай валюце.

Вераснёўскі рост валютных дэпазітаў беларускія эканамісты тлумачаць ростам дэвальвацыйных чаканняў.

**Што будзе далей?**

На фоне павышэння попыту на замежную валюту сталі расці стаўкі па ... рублёвых дэпазітах. Банкі, відавочна, ўсвядомілі, што пры захаванні цяперашніх інфляцыйных працэсаў (дэвальвацыйных чаканняў) ўклады пад 30% гадавых не вельмі прывабныя для насельніцтва, таму павышаюць працэнтны даход па рублёвых дэпазітах.

Дарэчы, «МТБанк» ужо даваў стаўкі па ўкладах у нацвалюце да 39% гадавых, «Хоум Крэдыт Банк» прыцягвае рублі ў насельніцтва наогул пад 42%.

Банкіры называюць некалькі прычын росту працэнтных ставак па рублёвых укладах.

«На міжбанку рублі сёння не возьмеш - дэфіцыт ліквіднасці, прадаваць валюту не хочацца - гэта крайні выпадак. Таму даводзіцца падымаць стаўкі па дэпазітах, прыцягваючы рублёвыя рэсурсы ў насельніцтва. Але гэтыя стаўкі па ўкладах адбіваюцца - спажывецкія крэдыты сёння карыстаюцца попытам з боку насельніцтва », - паведаміў Naviny.by начальнік упраўлення аднаго з вядучых рознічных банкаў.

Эксперты бачаць некалькі тлумачэнняў таго, чаму спажывецкія крэдыты ў апошнія месяцы сталі карыстацца ўстойлівым попытам. Па-першае, з пачатку года выраслі даходы насельніцтва (сярэдняя зарплата за студзень-жнівень павялічылася больш чым на 40%). Яшчэ адна прычына падвышэння попыту на крэдыты - усё тыя ж інфляцыйныя чаканні.

Павышэнне ставак па рублёвых дэпазітах, а таксама спажывецкае крэдытаванне некалькі знізіць попыт насельніцтва на замежную валюту, аднак дэвальвацыйныя чаканні ў бліжэйшыя месяцы будуць захоўвацца, мяркуе Палхоўскі. «Змагацца ў нашай краіне з дэвальвацыйнымі чаканнямі складана. Таму, хутчэй за ўсё, попыт на валютныя дэпазіты застанецца », - лічыць эксперт.

На думку назіральнікаў, рэальна змяніць настрої насельніцтва ў лепшы бок можа значны прыток валюты ў краіну, які можна чакаць толькі з прычыны атрымання чарговага буйнога пазыкі ў крэдытораў, альбо ў выпадку продажу нейкага буйнога актыву.

«Многае будзе залежаць ад таго, ці атрымаем мы значны прыток валюты звонку. Гэта можа быць альбо чарговы крэдыт МВФ, верагоднасць атрымання якога пакуль невысокая, альбо буйная прыватызацыйная здзелка », - кажа Кацярына Барнукова, эксперт Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC).

Цяперашняя сітуацыя, якая характарызуецца даларызацыяй укладаў, у агульным-то заканамерная. Плацяжы па знешнім дзярждоўгу чакаюць вялікія, гандлёвы баланс пагаршаецца, прыватызацыя, якая магла б забяспечыць значны прыток валюты ў краіну, не ідзе. Вось насельніцтва і хваляецца, што будзе далей ...

**Дзмітрый Заяц, naviny.by**

СКАЗАНА – НАЦЫЯНАЛІЗАВАЦЬ!

# УЛАДА ЗНОЎ АПРАНАЕ ШЫНЕЛЬ БАЛЬШАВІКА

ДЗЕЛАВАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ СПРАБУЕ ПЕРАВАРЫЦЬ РАСПАРАДЖЭННЕ ЛУКАШЭНКІ НАЦЫЯНАЛІЗАВАЦЬ ААТ «КАМУНАРКА» І «СПАРТАК». СТВОРАНЫ НАЙНЕБЯСПЕЧНЫ ПРЭЦЭДЭНТ, КАЛІ ДЗЯРЖАВА Ў АДЗІН МОМАНТ, ІГНАРУЮЧЫ ЎСЕ ЗАКОНЫ, МОЖА АДАБРАЦЬ ЎЛАСНАСЦЬ У ПРЫВАТНАГА БІЗНЭСУ. А ЗАМЕЖНЫЯ ІНВЕСТАРЫ АТРЫМАЛІ З БЕЛАРУСІ ЧАРГОВЫ ТРЫВОЖНЫ СІГНАЛ.

12 кастрычніка на нарадзе па пытаннях развіцця кандытарскай галіны **Аляксандр Лукашэнка даручыў ліквідаваць** на гэтых акцыянерных таварыствах назіральныя саветы і павялічыць у іх долю дзяржавы да 57% - на «Камунарцы» і да 60% - на «Спартаку».

«Камунарка» вядзе сваю гісторыю з 1905 года, «Спартак» - з 1924. У адкрытыя акцыянерныя грамадства абедзве фабрыкі былі пераўтвораныя ў 1994 годзе. Пасля акцыянавання 49% акцый «Камунаркі» стала належаць фізічным асобам, 51% - юрыдычным (22% складае доля дзяржавы, 22,5%- амерыканскай кампаніі «Мол Карпарэйшн»). 49,6% акцый «Спартака» належыць фізічным асобам, 36,13% - замежнаму прадпрыемству Double Star International Ltd, 13,9% - Фонду дзяржмаёмасці Беларусі, 1,18% - ІП Triostar.

Трымальнікам кантрольных пакетаў акцый абедзвюх фабрык быў амерыканскі бізнэсмэн беларускага паходжання **Марат Новікаў.** Цяпер яны становяцца ўласнасцю дзяржавы. Паводле яго інфармацыі, Марат Новікаў зарэгістраваў свае прадпрыемствы ў Амерыцы і Расіі, праз іх купляў сыравіну і ажыццяўляў продаж гатовай прадукцыі.

Ранейшыя дырэктары фабрык ад займаных пасадаў адхіленыя. «Камунаркай» і «Спартаком» цяпер кіруюць іншыя людзі. Дзярждоля ў гэтых ААТ будзе павялічана праз дадатковую эмісію акцый, бязвыплатна перададзеных дзяржаве. Пазачарговыя сходу акцыянераў з гэтай нагоды павінны прайсці на «Спартаку» і «Камунарцы» 26 кастрычніка.

**Юрыдычным падставай** для ініцыявання канцэрнам «Белдзяржхарчпрам» правядзення дадатковай эмісіі стала **рашэнне Вышэйшага гаспадарчага суда** (ВГС), які яшчэ ў жніўні гэтага года устанавіў, што дзяржаўная доля ў ААТ «Камунарка» і ААТ «Спартак» у свой час была прыніжаная.

Марат Новікаў, цяпер ужо былы ўладальнік кантрольнага пакета акцый, нават «ў самым дрэнным варыянце развіцця падзей не меркаваў, што справа можа скончыцца такім чынам». «Я шкадую, таму што трэцяя частка майго працоўнага жыцця ўкладзена ў гэтыя фабрыкі. А, можа, нават і ўсёй. Не думаю, што будзе захавана тое, што мы рабілі », - сказаў бізнесмен у каментары агенцтву« Бізнэснавіны ».

Паводле яго слоў, па выніках 2012 **«Спартак» павінен атрымаць больш за 15 млн. даляраў прыбытку, «Камунарка» - 12-13 млн.** Калі б былі «злачынства і непразрыстыя інвестары, то, вядома ж, гэтых прыбыткаў б не было», падкрэсліў Новікаў. Ён таксама паведаміў, што **сярэдняя зарплата на абедзвюх фабрыках перавысіла 600 даляраў.**

«Мы стварылі сумеснае прадпрыемства. Правыя або няправыя, як можна, нават не указам прэзідэнта, а сказаць - і ўсё?! », - абурыўся Новікаў.

Ён выказаў здзіўленне тым, што падобная сітуацыя адбылася напярэдадні шырока разрэкламаванага ўладамі VII Беларускага інвестыцыйнага форуму. Аналітыкі перакананыя, што гісторыя з «Камунаркай» і «Спартаком» будзе мець негатыўныя наступствы.

«Усім, хто да гэтага часу яшчэ сумняваўся, зараз стала зразумела, што абарона правоў уласнасці ў Беларусі разумееца ўладамі вельмі своеасабліва», - заявіў у каментары для БелаПАН эканаміст **Сяргей Чалы.**

«Тое, што адбылося, парушае закон аб акцыянерных таварыствах. Па гэтым законе рашэнне аб скасаванні назіральнага савета можа прымаць толькі агульны сход акцыянераў. Відавочна, што ўласнасць у Беларусі можна абараніць альбо на падставе нейкіх асабістых дамоўленасцей, альбо, як у выпадку з «Газпромам», пры дапамозе міждзяржаўных пагадненняў, дзе дакладна прапісаны пункты аб абароне інвестыцый ад магчымых дзеянняў дзяржавы (гаворка ідзе аб умовах куплі- продажу «Газпрому» акцый кампаніі «Белтрансгаз» і яе далейшай дзейнасці - І.Л.) », - адзначыў Чалы.

Ён нагадаў, што каля года назад прыкладна тое ж самае адбылося з кампаніяй «Керамін». У ААТ яна таксама была пераўтворана на хвалі першай хвалі прыватызацыі, у першай палове 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Актывы «Кераміна» таксама былі перададзеныя дзяржаве паводле вуснага загаду Лукашэнкі.

Між тым бізнэс-супольнасць сітуацыю з кандытарскімі фабрыкамі праглыне моўчкі і паводзіць сябе па прынцыпе «мая хата з краю». «Мы разумеем, што бачым толькі верхавіну айсберга, і што там адбывалася, пакуль ніхто не агучыў. У гэтай сітуацыі мы як кампанія ўстрымаемся ад якіх-небудзь каментароў », - заявіў журналістам 18 кастрычніка на прэс-канферэнцыі ў Мінску кіраўнік партнёра па Беларусі кампаніі «Эрнст энд Янг» **Павал Лашчанка.**

Калі закон адпачывае, а дзелавыя колы не рызыкуюць абурацца, ці варта чакаць, што ўлада зменіць сваё стаўленне да прыватнаму бізнэсу і яго ўласнасці?

**Ірына Леўшына.**

ЧАРГОВАЯ РАЗМОВА

# САМЫ ДАРАГІ СЕАНС ПСІХАТЭРАПІІ Ў ГІСТОРЫІ

АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА РАЗМАЎЛЯЎ З РАСІЙСКІМІ ЖУРНАЛІСТАМІ ЧАТЫРЫ З ПАЛОВАЙ ГАДЗІНЫ. ЯК ЗВЫЧАЙНА, ГЭТА БЫЛА РАЗМОВА ПРА ЎСЁ І НІ ПРА ШТО.

**Толькі тры правы**

Самыя сумныя пытанні тычыліся палітыкі, і нядзіўна. Лукашэнка ўвесь час паўтарае адно і тое ж. Беларусь гатова прыняць усе інтэграцыйныя ініцыятывы Расіі, але пасля таго, як у Крамлі адмовіліся ад ідэі Канстытуцыі Саюзнай дзяржавы, «адбыўся злом».

Што ж тычыцца правоў чалавека, то з іх Лукашэнка прызнае толькі тры: правы на жыццё, права на працу і правы на годную зарплату. Усё астатняе — балаўство.

Адказваючы на пытанні эканамічнага характару, Лукашэнка ўвесь час звяртаецца за пацвярджэннем лічбаў да членаў урада. Лукашэнка любіць падкрэсліць: далі б нам, як Грэцыі, 100 мільярдаў еўра альбо было б у нас столькі газу, колькі ў Казахстане ці ў Расіі, то жыла б рэспубліка ў раі. Пусціце хоць пампаваць нафту ў Расійскую Федэрацыю — практычна ўпрошвае прэзідэнт прысутных, а то англічане ці амерыканцы пампуюць, а мы з Венесуэлы возім. Непарадак.

Тое ж тычыцца і прыватызацыі: «Аддамо нафтаперапрацоўчы завод, але вы дайце свідравіну», — прапаноўвае Лукашэнка.

**Запланаваная мэта была дасягнута**

Лукашэнка ставіў перад сабой толькі адну мэту. І ён яе дасягнуў: ён правёў з дапамогай расійскіх журналістаў для сябе самога сеанс масавай псіхатэрапіі, масавага самагіпнозу. Зараз яму проста неабходны такія сеансы, паколькі ён прайграе па ўсіх франтах.

Яму трэба ўмацавацца ў складанай сістэме адносін, у выкліках якой ён прайграе. У краіне плаўная дэвальвацыя, ад Расіі ён не атрымаў таго, чаго хацеў: ні нафты, ні новых самалётаў на пераўзбраенне арміі. З Еўропай нічога новага. Зноў жа крызіс на носе, папулярнасць прэзідэнта падае.

Таму яму трэба было тэрмінова пераканаць самога сябе ў тым, што ён лепшы. Усе астатнія мэты, калі яны і існавалі, былі другаснымі.

Але варта адзначыць і яшчэ адзін, новы для Лукашэнкі момант: ён упершыню заняў новую для сябе псіхалагічную нішу — традыцыйную для беларуса нішу партызана, які «схаваўся ў бульбу». Адчуваючы крах Еўразійскай эканамічнай супольнасці, ён ужо не бяжыць наперад з прапановамі. Ён аддаў яе на водкуп Назарбаеву і Пуціну. А калі гэты саюз правааліцца, Лукашэнка зноў знойдзе вінаватых — Пуціна і Назарбаева.

Так што прэс-канферэнцыя Лукашэнкі стала, напэўна, самым дарагім сеансам псіхатэрапіі ў гісторыі. Трэба тэрмінова выклікаць сюды экспертаў Кнігі рэкордаў Гінеса.

**Сяргей КОЎШ, "Тут і цяпер".**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.10.2012 у 17.40.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.